# І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** ЛЮТЫ 2012

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**

Каманда ГуМно

## Усе навінкі - у ГНавінках!

**Думкі пра аўтаномію Палесся: дзе мяжа паміж беларусамі і ўкраінцамі?**

стар. 4

**Не падабаецца — не купляйце білеты і не глядзіце**

стар. 2





# Не падабаецца — не купляйце білеты і не глядзіце

***Брэсцкая епархія бароніць рок-оперу «Ісус-Хрыстос — суперзорка» ад праваслаўных экстрэмістаў.***

Праваслаўныя Брэста не будуць выступаць за адмену выступу Санкт-Пецярбургскага тэатра «Рок-опера» з пастаноўкай «Ісус Хрыстос — суперзорка». Аб гэтым паведамляецца на сайце прыхода Святога Хрыстова Нараджэння Брэста. У гэтым абласным цэнтры спектакль адбудзецца 29 лютага.

У сваім звароце рэдакцыя сайта прыхода крытыкуе дзеянні тых «радыкалаў з праваслаўнага асяроддзя», хто падняў «хвалю кампаніі забароны пастаноўкі ў Беларусі»:

«Гэтыя людзі вядомыя сваёй няспыннай барацьбой з цяперашнімі нацыянальнымі пашпартамі, ідэнтыфікацыйнымі нумарамі падаткаплатніка (ІПП) і іншымі падобнага роду адыёзнымі акцыямі, якія ў вачах свецкіх людзей сур'ёзна дыскрэдытуюць вобраз праваслаўнай царквы.

Часцей за ўсё іх аргументы эмацыйныя, а паводзіны носіць скрытыя і відавочныя пагрозы ў дачыненні да тых, на каго яны аказваюць ціск.

Пад такі ціск трапіў шэраг духавенства (настаяцеляў брэсцкіх храмаў) і епархіяльнае кіраўніцтва.

Прыходзілі гэтыя людзі і да нашага настаяцеля. Але разумення і падтрымкі сваім дзеянням яны не знайшлі.

Сутнасць іх патрабаванняў у тым, каб ад імя Брэсцкай епархіі звярнуцца да свецкіх уладаў з патрабаваннем (!) забараніць паказ згаданай рок-оперы ў Брэсце. Але калі ў Магілёве і Гомелі абласныя адміністрацыі пайшлі на саступкі, то ў Брэсце аблвыканкам не схільны патураць радыкалам з праваслаўнага асяроддзя і нагадвае аб свецкім характары беларускага грамадства, аддзяленні царквы ад дзяржавы, аб праве няверуючых людзей мець іншыя перакананні і глядзець спектаклі, якія ім па гусце.




Тым больш што ніхто праваслаўных не гоніць сілай на гэты спектакль і не прымушае яго глядзець.

«Не падабаецца — не купляйце білеты і не глядзіце».

І нам уяўляецца такая пазіцыя цалкам зразумелай».

Пры гэтым правасаўны сайт не абараняе оперу. Наадварот, ён адзначае, што трактаванне Евангелля аўтарамі рок-оперы «для праваслаўных вернікаў… мякка кажучы, непрымальнае»: «Гэта выкладанне падзей, апісаных у Евангеллі, але так, як яго зразумелі аўтары мюзікла. А зразумелі яны іх вельмі своеасабліва. паўторымся — яны няверуючыя. Адсюль непазбежны канфлікт паміж традыцыйнай для большасці хрысціянскіх канфесій трактоўкай Евангельскіх падзей і лібрэта рок-оперы».

«Разам з тым, — гаворыцца ў паведамленні, — у гады СССР і атэістычнай прапаганды рок-опера «Ісус Хрыстос — суперзорка» стала тым спускавым кручком, націснуўшы на які людзі пачалі сур'ёзна цікавіцца першакрыніцай — Евангеллем, і многія з іх, у канчатковым выніку, прыйшлі да Бога».

Адзначым, што першымі выказалі сваю незадаволенасць пастаноўкай праваслаўныя Магілёва. Каля 500 подпісаў было накіравана старшыні Магілёўскага аблвыканкама Пятру Рудніку пад зваротам адмяніць у Магілёве выступленне Санкт-Пецярбургскага тэатра «Рок-опера» з пастаноўкай «Ісус Хрыстос — суперзорка». У выніку рок-оперы магілёўцы не ўбачаць, а следам аб адмене прадстаўлення ў Гомелі папрасіла Гомельская епархія БПЦ.

*Паводле tut.by*

Сатаніст Андрэйка, які пабываў на канцэрце Петрасяна упершыню ў жыцці перахрысціўся.

# У Гомелі напісалі дыктоўку на беларускай мове

***У Гомелі 21 лютага, у міжнародны Дзень роднай мовы, грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» арганізавала і правяло дыктоўку на беларускай мове ў рамках агульнанацыянальнай акцыі.***

Удзельнікам мерапрыемства, а імі сталі каля 20 чалавек, былі прапанаваныя для напісання два тэксты — «Родная мова» Максіма Танка і «Ліст у рэдакцыю» Янкі Купалы. Дыктавала тэксты вядомы бард Вольга Цярэшчанка, якая таксама з'яўляецца настаўніцай беларускай мовы.

Усе ўдзельнікі мерапрыемства атрымалі заахвочвальныя падарункі — значкі і буклеты-інструкцыі аб тым, як пачаць размаўляць на роднай мове.

«У Гомелі ТБМ праводзіла дыктоўку трэці раз.

Чамусьці людзей было менш, чым летась. Прыкладна палова ўдзельнікаў — члены ТБМ, астатнія — моладзь, якая прыйшла да нас упершыню, новыя людзі.

Добра, што з'явілася такая традыцыя, і прыйшлі людзі. Тут сэнс не ў тым, каб напісаць без памылак, а ў тым, каб сабрацца разам. Па ўсёй краіне ў гэты дзень пісалі дыктоўкі, таму важна было адчуць гэтае яднанне на глебе роднай мовы», — пракаментаваў старшыня абласной арганізацыі ТБМ Яўген Якавенка.

21 лютага ў гомельскіх бібліятэках таксама праходзіла акцыя «Размаўляй са мной па-беларуску!». Па заяве арганізатараў, супрацоўнікі бібліятэк павінны былі ў гэты дзень размаўляць паміж сабой і з наведнікамі на беларускай мове, а таксама прапаноўваць чытачам беларускамоўныя творы.

Аднак, прынамсі, у адной з бібліятэк, якую наведаў карэспандэнт БелаПАН, акцыя не адбылася — супрацоўнікі размаўлялі на расійскай мове і беларускіх кніг не прапаноўвалі.

*Алена Германовіч, БелаПАН*




На іспыце ў студэнта пытаюцца:
— Як звалі Пушкіна?
— Аляксандр Рыгоравіч!

## У Гомелі супрацоўнікі МНС выратавалі студэнта, які заблукаў і ледзь не замёрз

***У Гомелі супрацоўнікі МНС выратавалі студэнта, які замярзаў.***

Як сказаў прэс-сакратар Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС Руслан Габрылёў, 9 лютага прыкладна ў 14.30 у бальніцу хуткай дапамогі паступіў званок ад жыхара Гомеля, які заблудзіў у лясным масіве за Сожам і замярзаў.

Малады чалавек знаходзіўся ў лесапаркавай зоне за пешаходным мостам цераз раку, насупраць цэнтральнага парку, але не мог указаць свайго дакладнага месцазнаходжання.

Медыкі перадалі гэтую інфармацыю ў МНС.

Ратаваць студэнта супрацоўнікі МНС адправіліся на ўсюдыходзе «Радыян». Да пошукаў падключыліся супрацоўнікі міліцыі і хуткай дапамогі.

Каля 15.30 яны знайшлі хлопца, які моцна замерз і не мог самастойна перамяшчацца.

Першая медыцынская дапамога яму была аказана на месцы. Пацярпелы аказаўся студэнтам 1-га курса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту, 1993 года нараджэння. Яго даставілі ў бальніцу з дыягназам «агульнае пераахаладжэнне, адмарожанне ступняў ног». «Яшчэ крыху і пацярпелы б не выжыў», — дадаў прэс-сакратар упраўлення МНС.

*БелаПАН*

iPhone — самы разумны тэлефон! У яго самы высокі адсотак уладальнікаў, якія значна дурнейшыя за свой тэлефон.

# Думкі пра аўтаномію Палесся: дзе мяжа паміж беларусамі і ўкраінцамі?

***Мне шкада, што ў сярэдзіне 90-х гадоў заглох заходнепалескі аўтанамісцкі культурніцкі рух.***

Заходняе Палессе, адкуль ідзе і мой род, — гэта самабытны край, чыя моўная і культурная адметнасць знаходзіцца пад куды большай пагрозаю, чым «тытульная» беларушчына.

Мой дзед, карэнны жыхар Бярозаўскага раёну, любіць з жартам казаць, што валодае дзвюма замежнымі мовамі: расійскай і беларускай. Мову Берасцейшчыны ў афіцыйнай навуцы прынята называць дыялектам беларускай. Але прынамсі ў дачыненні да «майго» Бярозаўскага раёна я магу з усёй упэўненасцю казаць, што мясцовае насельніцтва насамрэч размаўляе на дыялекце, вельмі блізкім да ўкраінскай мовы з асобнымі «польскімі» элементамі.

Перапісы насельніцтва, праведзеныя за часамі Расійскай імперыі, класіфікавалі родную мову насельніцтва на поўдзень ад Пружанаў і на захад ад Мазыра як украінскую. Расійскія імперскія ўлады ў гэтым пытанні можна лічыць амаль што незацікаўленым бокам: у гэтым выпадку яны не мелі матываў маніпуляваць мяжой паміж беларусамі і «маларосамі».

Тое ж самае бачым на мапе, складзенай Яўхімам Карскім. Нават на вядомай мапе Беларускай народнай рэспублікі, якая мела ўключыць у свой склад усе заселеныя этнічнымі беларусамі землі, мы бачым яўны небеларускі «выступ» на ўсходзе ад Берасця.

Маніпуляванне межамі паміж народамі па зразумелых прычынах рэзка ўзмацнілася пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі міжваенныя польскія перапісы, прыкладам, рэзка «павялічылі» у параўнанні з дарэвалюцыйнымі дадзенымі колькасць палякаў на тэрыторыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны.

Цікава, што вынікі перапіса насельніцтва Польшчы 1931 г. уключалі абсурдную з пункту гледжання дэмаграфічнай (дый любой іншай) статыстыкі рэч: ажно 63% насельніцтва Палескага ваяводства (тэрыторыя якога прыкладна як раз адпавядала этнаграфічнаму беларускаму Заходняму Палессю) пазначылі ў якасці роднай мовы «іншае»




Пасля савецкага захопу Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў 1939 годзе Берасцейшчына была перададзеная ў склад БССР. У час нямецкай акупацыі Заходняе Палессе было ў складзе Імперскага камісарыята Ўкраіны — але першы паваенны савецкі перапіс 1959 г. вызначае колькасць украінцаў Берасцейшчыны ў межах статыстычнае пагрэшнасці.

Дык палешчукі беларусы ці ўкраінцы?

Украінскія нацыяналісты заяўляюць пра нібы ўкраінскасць

гэтага рэгіёна, але з гэтае ўкраінскасці рэальна можна казаць хіба што пра наяўнасць мовы, якая сапраўды можа лічыцца дыялектам украінскае, а не беларускае.

Між тым, як нямецкамоўнасць аўстрыйцаў ці швайцарцаў не азначае, што яны належаць да нямецкай нацыі, так і палешукі (ці палешчукі) ніколі не мелі і так ніколі і не займелі украінскай нацыянальнай свядомасці — пачуцця атаесамлення сябе з Кіевам ці Данбасам, хаця сто гадоў таму і мелі для гэтага культурна-моўныя перадумовы.

Нацыянальная свядомасць любога народа з'яўлялася толькі з пашырэннем пісьменнасці, друкаванага слова, стандартызацыі мовы- т о

Пажар на АЭС — эта харашо. Патаму што ўзрыў хужэ

## Думкі пра аўтаномію Палесся: дзе мяжа паміж беларусамі і ўкраінцамі? Працяг

бок стварэння агульнай інфармацыйнай прасторы, базай для якой звычайна бывала моўная еднасць і якому магло спрыяць знаходжанне ў складзе адной дзяржавы, якую можна было перарабіць у «нацыянальную».

Культурна-моўная еднасць толькі стварала перадумовы, але ніколі не азначала аўтаматычнай самаідэнтыфікацыі сябе з сваімі супляменнікамі:

у сярэдзіне 19 стагоддзя беларускамоўныя сяляне Гомельшчыны і Віленшчыны нічога не ведалі пра адно аднаго, і ў любым выпадку не ўяўлялі, што між імі ёсць нешта агульнае і што нават іхныя дыялекты класіфікуюцца як часткі адной мовы.

Так і палешчукі, што жылі дробнымі і ізаляванымі вёскамі пасярод непраходных балотаў, былі ізаляваныя не тое што ад Кіева ці Львова — але нават ад павятовага цэнтру ці ад суседняга паселішча.

Украінскія асветнікі не паспелі апрацаваць гэты рэгіён і навязаць украінскую нацыянальную свядомасць мясцоваму ўкраінскамоўнаму насельніцтву. Нацыянальная ідэнтычнасць у насельніцтва Берасцейшчыны з’явілася ў паваенны час у складзе БССР — і гэта была беларуская ідэнтычнасць.

Цікава назіраць, як, гаворачы на дыялекце ўкраінскай мовы, ніхто з маіх бярозаўскіх сваякоў нават блізка не атаесамляе сябе з Украінай і ўкраінцамі.

*(заканчэнне будзе)*

*Алесь Чайчыц*

## У гомельскім памежным атрадзе павесіўся салдат

***«Ен не хацеў ісці ў войска, але пайшоў, каб ад яго адсталі», - кажуць сваякі.***

Каля тыдня правёў 23-гадовы Мікалай у вайсковай частцы. Пасля «вучэбкі» яго адправілі ў Гомельскі памежны атрад, а адтуль сваякі забралі салдата мёртвым.

— На адной з застаў Гомельскай вобласці 2 лютага павесіўся вайсковец тэрміновай службы. Характарызаваўся станоўча. Матывы і абставіны самагубства высвятляе следства.

Напярэдадні суіцыду малады чалавек сустракаўся з маці і жонкай, што прыязджалі да яго, — распавялі «Камсамолцы» ў Дзяржаўным памежным камітэце.

Мікалай быў родам з Буда-Кашалёўскага раёна.




— Нам тлумачыў псіхолаг, што ў частцы праводзілі тэст, і па яго выніках у Мікалая не было схільнасці да самагубства, — кажа адзін са сваякоў. — Мы раслі з ім з дзяцінства, заўсёды

Мікалай быў жыццярадасным, мы не бачылі, каб ён плакаў ці быў прыгнечаным. У пасёлку не вераць, што ён сам мог павесіцца. І на целе Мікалая былі розныя раны. Праўда, калі з «вучэбкі» ён тэлефанаваў і казаў, што ў яго ўсё добра, то пасля пераводу ў Мазыр пастаянна скардзіўся. Казаў, што ў казарме вельмі халодна, ногі заўсёды мокрыя. Прасіў маці, каб яна забрала яго адсюль.

Сябрам тэлефанаваў і таксама казаў, што яму вельмі дрэнна. Мама збіралася ехаць да яго і прасіць, каб сына кудынебудзь перавялі.

Мікалай сказаў, што абавязкова дачакаецца яе, але… Мы толкам не ведаем, як гэта здарылася. У частцы кажуць то адно, то іншае. Быццам бы перад самым адбоем ён пайшоў і павесіўся на пажарнай лесвіцы.

Мікалай незадоўга да прызыву ажаніўся, але дзяцей у мужа і жонкі яшчэ не было. Родныя кажуць, што хлопец не хацеў ісці ў войска:

— У яго былі адтэрміноўкі з-за хворага страўніка. Але ўвесь час трэба было пацвярджаць захворванне. Мікалай сказаў, што яму надакучыла кожны год глынаць зонд і праходзіць абследаванне, таму вырашыў пайсці ў войска, каб ад яго адсталі.

*Павел Міцкевіч, kp.by*

Наведвальнік залез у вальер, каб пакарміць тыгра і, трэба прызнацца, гэта яму ўдалося.

# Свякруха і нявестка з пахам цыбулі кралі грошы ў аўтобусах

***Гэта адна з хітрасцяў кішэннікаў - перагар, цыбулевы або часнычны пах.***

Днямі ў Жлобіне былі затрыманыя дзве цыганкі, што «зараблялі» кішэннымі крадзяжамі.

У райаддзел звярнулася мясцовая жыхарка з заявай пра крадзёж кашалька (гаманца). Да гэтага ўжо было некалькі паведамленняў пра такія злачынствы. Але тады выйсці на след кішэннікаў не ўдалося. Гэтым разам з Гомеля ў дапамогу мясцовай міліцыі прыбылі аператыўнікі. Пацярпелая апісала меркаваную злачынцу. Асобы не запомніла.

Аднак адзначыла адну дэталь: ад злачынцы несла пахам перагару.

Гэта адна з хітрасцяў — перагар, цыбулевы або часнычны пах. Каму спадабаецца, што ў перапоўненым аўтобусе на яго дыхаюць такой «свежасцю». Вядома, кожны ў такой сітуацыі пастараецца адвярнуцца ад гэтага суседа, што на руку зламысніку. Таму і твар можна не ўзгадаць. Неадкладна былі разасланыя арыенціроўкі меркаванай кішэнніцы.

— Ад аднаго супрацоўніка паступіў сігнал, што ён бачыў такую жанчыну на адным з прыпынкаў грамадскага транспарту. Але з ёю побач знаходзіцца і маладая дзяўчына, — распавядае супрацоўнік прэс-службы УУС Гомельскага аблвыканкама Святлана Урублеўская. — У аўтобус яны не зайшлі, затое вокамгненна перабеглі праз дарогу на іншыаўтобусны прыпынак, калі туды пад'ехаў загружаны грамадскі транспарт. Аператыўнік прайшоў за імі. І не безвынікова. Літаральна на яго вачах адна з злачынц выцягнула ў жанчыны, што заходзіла ў аўтобус, кашалёк ярка-чырвонага колеру. Пры затрыманні кішэнніца выкінула кашалёк. Але было ўжо позна. Супрацоўнікамі міліцыі з доказамі злачынства затрыманыя непрацуючыя 28-гадовая і 54-гадовая жыхаркі райцэнтра. Як аказалася, свякруха з нявесткай.

Выкрадзеныя грошы вернутыя пацярпелай. У ходзе далейшых аператыўных мерапрыемстваў была ўстаноўлена дачыненне да яшчэ некалькіх такіх злачынстваў, зарэгістраваных у райцэнтры. Вядзецца следства.

*Павел Міцкевіч, kp.by*




20-гадовая гамяльчанка Іра, якая вывучала псіхалогію з 5-га класа, марыла не аб прынцу, а аб паўдурку. І выйшаўшы замуж, у адрозненне ад сябровак, не атрымала маральна-псіхалагічнай траўмы.

# БАТЭ пачне чэмпіянат гульнёй з «Мінскам», «Дынама» згуляе з «Гомелем»

***Звярстаны каляндар чэмпіянату Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе.***

Сёння ў Доме футбола, на выканкаме БФФ, прайшло лёсаванне чэмпіянату Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе. Нагадаем, што пасля таго, як мінскі «Партызан» адмовіўся ад удзелу, выканкам прыняў рашэнне, што ў мужчынскім першынстве вышэйшай лігі возьмуць удзел 11 клубаў, якія згуляюць, як і ў 2010 і 2011 г., у тры колы. Толькі цяпер будзе 30 тураў, замест 33.

Раз колькасць удзельнікаў няцотная, то адна з камандаў будзе прапускаць тур.

22-і чэмпіянат Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе пачнецца 24–25 сакавіка.

У І туры згуляюць: «Мінск» — БАТЭ, «Гомель» — «Дынама» Мінск, «Нафтан» — «Шахцёр», «Славія» — «Нёман», «Белшына» — Брэст». Жодзінскае «Тарпеда» першы тур прапускае.

У ІІ туры, 31 сакавіка, згуляюць: БАТЭ — «Белшына», «Нёман» — «Мінск», «Дынама» Мінск — «Славія», «Шахцёр» — «Гомель», «Тарпеда» — «Нафтан». «Брэст» тур прапусціць.

БАТЭ і мінскае «Дынама» дзве гульні правядуць у Мінску (20 ці 21 красавіка, 22 ці 23 верасня), адну ў Барысаве (1 ліпеня). Два гады запар лёсаванне адпраўляла дзве гульні ў Барысаў.

Матчы 2-га кола пачнуцца 24–25 мая, трэцяга кола — 1–2 верасня. У другой палове ліпеня — першай дэкадзе жніўня ў чэмпіянаце будзе ўзяты тайм-аут з прычыны ўдзелу алімпійскай футбольнай зборнай у 30-х Гульнях у Лондане. Апошні, 33-ты, тур пройдзе 25 лістапада. У Барысаве згуляюць БАТЭ і «Шахцёр». Мінскае «Дынама» ў гэтым туры гуляць не будзе.

Ніводная з камандаў наўпрост не пакіне вышэйшую лігу.

Каманда, што зойме апошняе, 11-е месца, будзе гуляць у канцы года ў стыкавых матчах з 2-й камандай першай лігі.

Футбольны сезон пачнецца 6 сакавіка матчам на Суперкубак краіны паміж БАТЭ і «Гомелем» — дзеючым чэмпіёнам і ўладальнікам Кубка.

***

Чэмпіёны Беларусі па футболе:

БАТЭ — 8-разовы чэмпіён краіны: 1999, 2002, 2006, 2007, 2008, 2009, 2010, 2011.

«Дынама» Мінск — 7-разовы чэмпіён: 1992, 1993-вясна, 1993/1994, 1994/1995, 1995, 1997, 2004.

«Славія» — 1996 (як МВКЦ), 2000.

«Дняпро-Трансмаш» — 1998.

«Белшына» — 2001.

«Гомель» — 2003.

«Шахцёр» — 2005.

Апошнія шэсць гадоў бясменным чэмпіёнам у нас барысаўскі БАТЭ.

***

У жаночым першынстве ў вышэйшай лізе возьмуць удзел 10 камандаў. Турнір будзе праведзены ў тры колы.

У стартавым туры сустрэнуцца наступныя пары каманд: Маладзечна — Вікторыя (Воранава), Зорка-БДУ (Мінск) — Вікторыя-86 (Брэст), СДЮШАР-8 (Гомель) — Надзея-СЛДЮШАР-7 (Магілёў), Універсітэт (Віцебск) — Мінск,

Бабруйчанка (Бабруйск) — Ніва-Белкард (Гродна).

*nn.by*

# Вячаслаў Глеб перайшоў у «Гомель»

***Форвард Вячаслаў Глеб, малодшы брат Аляксандра Глеба, пасля таго, як прайшоў з «Гомелем» канцоўку турэцкага збору, заключыў з клубам кантракт.***

Нядаўна «Гомель» адпусціў у мінскае «Дынама» ўкраінскага форварда Максіма Лісавога. В.Глеб, хутчэй за ўсё, стане яму заменай.




Да «Гомеля» беларускі футбаліст спрабаваў сябе ў казахстанскім клубе «Актобе», але вярнуўся адтуль ні з чым.

*Прессбол*

Гэта вельмі па-нашаму: са скандалам выбіраць таго, хто зойме на Еўрабачанні апошняе месца.



## КЛАСІКА ЖАНРУ ГумНо

З гісторыі Гомельскіх Навинак

Першы ў гісторыі цалкам беларускамоўны друкаваны сродак масавай інфармацыі Гомельскай вобласьці — малатыражная Інфармацыйна-забаўляльная газета «Гомельскія Навінкі» выходзіць з 2007 года накладам у 250 асобнікаў.

Былыя Галоўныя рэдактары:

З кастрычніка па 1-ю палову лістапада 2007 - Ірына Прушынская

2-я палова лістапада 2007 - Лявон Грос

З кастрычніка 2007 па снежань 2007 - Алесь Трыса

Са студзеня 2008 па верасень 2011 - Вольга Пыхава

Заснавальнікі - Мар'я Смолава, Вольга Пыхава, Лявон Грос, Ірына Прушынская, Міхась Міхнавец

Журналісты - Ірына Прушынская, Пётр Кручынскі, Міхась Міхнавец, Леанід Грос, музычны крытык Алекс Трэш, Ігар Леворт, спецкор Марэк Баханкевіч, Лявон Грос, Алеся М., Алесь Трыса, Вольга Пыхава, Алекс Нетрэш, Саша Чэл, Пётр Халецкі, Кастусь Багдашыц

***Апытанне з суполкі укантакце http://vk.com/gumno2007:***

*У якім годзе "Гомельскія Навінкі" былі лепшымі?*

| | |
|---|---|
| 2007 | 12.5% |
| 2008 | 0% |
| 2009 | 31.3% |
| 2010 | 12.5% |
| 2011 | 43.8% |

***Лепшы журналіст "Гомельскіх Навінак" за ўсе часы. Трэці тур.***

| | |
|---|---|
| Вольга Пыхава | 52% |
| Алекс Нетрэш | 8% |
| Ірына Прушынская | 12% |
| Алекс Трэш | 28% |

*Вольга Пыхава*

*http://vk.com/volha_pyhava*

Самы дзейсны спосаб выспацца — гэта класціся спаць не ў той дзень, калі трэба прачынацца.





M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі люты 2012"
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бязкаштоўна.

Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Мы ў сацыяльных сетках: Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Пеця Якабычна:*** http://vk.com/petsja_jakabychna